


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

11 кастрычніка 2002 года
№ 41 (390)
Выходзіць па пятніцах

Панас Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёна

### Гашкевіцкія чытанні

**МІНСК-АСТРАВЕЦ.** 9 кастрычніка пачаліся другія міжнародныя чытанні, прысвечаныя памяці першага расійскага пасла ў Японіі Іосіфа Гашкевіча, які апошнія гады жыцця працаваў на Астравеччыне. Тут і пахаваны.

У сераду ўдзельнікі чытанняў сабраліся ў Мінску, а ў чацвер прыехалі ў Астравец. Запланаваная экскурсія ўдзельнікаў па астравецкіх школах, дзе пройдуць урокі, прысвечаныя дыпламату, і паездка ў вёску Малі на адкрыццё помніка Іосіфу Гашкевічу.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Дажджлівы пачатак тыдня

**МЯДЗЕЛ.** У аўторак над Нараччу выпаў 31 мм ападкаў.
Гэта столькі ж, колькі было за цэлы верасень. І ў 4 разы больш, чым у жніўні. Наогул, за панядзелак і аўторак выпала амаль месячная норма ападкаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Закрылі паштовыя аддзяленні

**АШМЯНЫ.** З пачатку кастрычніка закрыліся паштовыя аддзяленні ў Габрыялаўшчыне і Талмінаве.
Гэта звязана са стратамі, якія нясе раённы вузел паштовай сувязі. Закрылі самыя нерэнтабельныя ўстановы. Усіх трох работнікаў перавялі ў суседнія аддзяленні.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Выйграў чэмпіянат свету

**МАЛАДЗЕЧНА.** На чэмпіянаце свету па тайландскім боксе сярод юнакоў да 20 гадоў, які праходзіў у Югаславіі, чэмпіёнам у вагавай катэгорыі да 81 кг стаў Аляксандр Панцюхоў.
Аляксандр жыве ў Чысці. Ён выхаванец маладзечанскага спартыўнага клуба "Гладыятар". Рыхтавалі чэмпіёна трэнеры Сяргей і Міхаіл Панцюховы і Сяргей Весялоў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Засталіся без ацяплення

**СМАРГОНЬ.** Жыхары мікрараёна Карані райцэнтра з аўторка засталіся без ацяплення і гарачай вады з-за аварыі на цеплатрасе.
У Каранях жыве трэцяя частка насельніцтва Смаргоні. Як сказаў загадчык раённага аддзела па будаўніцтву і жыллёва-камунальнай гаспадарцы Іван Рамановіч, цеплатрасу рамантуюць, але, калі дакладна з'явіцца вада ў дамах смаргонцаў, невядома.

**Ала КЛЕМЯНОК, Ірына РАБУШКА.**

### Новая вуліца ў Вілейцы

**ВІЛЕЙКА.** Новы выезд на плошчу Свабоды з'явіўся з боку новага мікрараёна па вуліцы Незалежнасці.
Новая вуліца яшчэ не названая. Па ёй у перспектыве будуць хадзіць гарадскія аўтобусы. У райвыканкоме разглядзяць пытанне аб змяненні аўтобусных маршрутаў. Але адбудзецца гэта толькі пасля поўнага ўпарадкавання вуліцы. Новая дарога ўжо займела асфальтавае пакрыццё. На чарзе асфальтаванне вуліц Савецкай і Гагарына.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

### Куды дзелася радыяцыя?

**ВАЛОЖЫН.** На 9 вёсак, якія лічыліся забруджаныя цэзіям-137, стала менш у раёне.
Як сказаў галоўны ўрач раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Уладзімір Рызгунскі, вёскі "сталі чыстымі" згодна з пастановай Савета Міністраў. Вяскоўцы страцілі права карыстацца "чарнобыльскімі" льготамі.
У раёне засталося 57 забруджаных радыяцыяй вёсак.

**Ірына РАБУШКА.**

### Надвор'е на выхадныя

**Субота, 12 кастрычніка**

| Мінск | Вільня |
| --- | --- |
| 1°С (уначы)<br>6°С (удзень) | 1°С (уначы)<br>6°С (удзень) |

**Нядзеля, 13 кастрычніка**

| Мінск | Вільня |
| --- | --- |
| 0°С (уначы)<br>7°С (удзень) | 0°С (уначы)<br>6°С (удзень) |

## Вада залівае нашыя кватэры

**Дажджы, што прайшлі ў пачатку тыдня, зноў сталі заліваць жыллё.**

Каторы раз абвастрылася праблема зношанасці дамоў пабудовы савецкіх часоў. Пляскатыя дахі не вытрымліваюць шматгадовай нагрузкі ападкаў і працякаюць. У рэдакцыю тэлефанавалі і скардзіліся чытачы з Вілейкі і Маладзечна. Падобнае ёсць і ў іншых гарадах рэгіёну.

**МАЛАДЗЕЧНА.** Кватэру ў доме па вуліцы Вольнай Вікторыя Жаровіна купіла 5 гадоў таму, летам. Былыя гаспадары пакінулі кватэру ў належным стане і запэўнілі, што дом, які пабудаваны ў 1975 годзе, адрамантаваны.

Але з першымі дажджамі зноў пацякла столь, намоклі сцены. І так з вясны да восені кожны год. Летась жыхары дома сабралі па 10 долараў на рамонт даху. Гэтым летам – па 17 тысяч. Дах рамантавалі два разы, але ён па-ранейшым працякае. Кватэры ў двух пад'ездах мокрыя. У некаторых не працуюць званкі і тэлефоны – з-за вільготнасці "кароцяць" правады. Як сказала Вікторыя Жаровіна, адрамантаваць праводку не бяруцца нават электрыкі з домакіраўніцтва. Маўляў, небяспечна для жыцця.

А яшчэ ў іншых кватэрах дзверы не зачыняюцца. Яны набрыняці ад вады.

Як нам сказалі ў "Камунальніку", у гарадской камунальнай уласнасці знаходзіцца 15149 кватэр. Без уліку тых, што знаходзяцца ў складзе жыллёва-будаўнічых кааператываў. На 2002 год на капітальны рамонт жылля выдзелена 345 мільёнаў рублёў. Гэта 37% ад неабходнага.

**ВІЛЕЙКА.** У стыхійную навалу пратарыўся дождж для сем'яў верхніх паверхаў 2-га і 3-га пад'езда ў доме № 25 па вуліцы Гагарына.

Гісторыі з рамонтам дзіравага даху больш за год. Пасля працяглых просьбаў жыхароў пачаліся работы. Але дождж не дачакаўся іх завяршэння. Кватэры стала заліваць.

Пры актыўным удзеле Вілейскага ЖЭУ брыгада мінскай фірмы-падрадчыка "Будстандарт" паспрабавала выправіць сітуацыю. Дзіркі і раскрытыя вентыляцыйныя шахты пазакрывалі цыратамі, тэнтам і брызентам. Але гэта кардынальна выправіць сітуацыю не змагло.

У сераду пасля спынення дажджу ўзнавілі рамонтныя работы. Жыхары глядзяць на гэта скептычна. Поўнасцю прасушыць замоклыя канструкцыі цяпер немагчыма, а залітыя бітумам яны не высахнуць за восень і зіму. Жыхары знаходзяцца ў роспачы і разгубленасці і не ведаюць, што рабіць і каму выказваць прэтэнзіі. Найбольш пацярпелым прапанавана на час пераехаць жыць у гасцініцу. Дадатковую напружанасць выклікае несуцяшальны прагноз надвор'я і надыходзячыя халады.

Фірма-падрадчык "Будстандарт" мусіць кампенсаваць нанесеныя страты.

Рамонтныя работы пачаліся больш за два тыдні таму. Затрымка дастаўкі матэрыялаў прывяла да таго, што занадта вялікі ўчастак даху быў раскрыты і яго не здолелі зрабіць да пачатку дажджу.

**Ірына РАБУШКА, Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**


Фота Ірыны РАБУШКІ

З пачаткам дажджоў жыхарка дома па вуліцы Вольнай у Маладзечне Святлана Жаровіна змагаецца з вадой, якая залівае кватэру. І так пяць гадоў.

■ ГАНДАЛЬ

## Ашмянскія прадпрымальнікі ствараюць прафсаюз

**АШМЯНЫ. Агульнарэспубліканская забастоўка прымусіла аб'ядноўвацца ашмянскіх прадпрымальнікаў. Падзеі 1 кастрычніка паказалі, што змагацца за свае правы больш эфектыўна ўсім разам. Таму ашмянскія прадпрымальнікі вырашылі аб'ядноўвацца ў прафсаюз.**

Яны выбралі рабочую групу з дзесяці чалавек, якім даверылі паўнамоцтвы па стварэнні прафсаюза.

Узнаўляем падзеі, якія адбыліся на мінулым тыдні.

### 1 кастрычніка

На прамысловым рынку раніцай сабраліся 150-200 прадпрымальнікаў, якія абмяркоўвалі звесткі аб забастоўцы па ўсёй краіне. Вырашылі ў гэты дзень не працаваць. Але некаторыя прыватныя магазіны і гандлёвыя пункты на рынку ўсё ж адкрыліся. Гэта выклікала гнеў бізнесменаў.

На сходзе вырашылі аб'ядноўвацца ў прафсаюз. Заадно прайшліся па рынках і магазінах, якія працавалі. Мог пачацца пагром тых магазінаў, што рызыкнулі адкрыцца. Але эмоцыі сціхлі. Дапамаглі ўгаворы прадпрымальнікаў, якія былі настроеныя менш агрэсіўна, ды і натоўп яшчэ ўзялі пад увагу міліцыянеры. Большасць гандлёвых пунктаў усё ж такі зачынілася.

### 2 кастрычніка

Прадпрымальнікі прынялі рэзалюцыю да райвыканкома, якую падпісалі каля 80-ці чалавек, у якой выказалі свае патрабаванні.

У той дзень вырашылі, што харчовы рынак будзе працаваць, бо калі прадукты не прадаць, то яны сапсуюцца. Прамысловы рынак не працаваў да канца тыдня. Крыты рынак не зачыняўся.

Прадпрымальнікі вырашылі не рэгістраваць сваю арганізацыю, а далучыцца да іншай, ужо зарэгістраванай – "Прыватная ўласнасць". Ашмянцы запрасілі да сябе прадстаўнікоў гэтага грамадскага прадпрымальніцкага аб'яднання, каб абмеркаваць варыянты супрацоўніцтва.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## «Аламеда» ў Крывічах

**МЯДЗЕЛ. У гэтым гарадскім пасёлку маецца офіс міжнароднага дабрачыннага аб'яднання «Аламеда» (у перакладзе з іспанскай — «Тапаліны гай»).**

Яго прэзідэнтам з'яўляецца дырэктар мясцовага цэнтра народных рамёстваў Раман Шаша. Аб'яднанне праводзіць аздараўленне дзяцей-сірот з школ- інтэрнатаў вобласці ў Іспаніі. Сёлета ездзілі за мяжу дзеці з падобных устаноў з Маладзечна, Барысава, Крывічоў, Мінска, Салігорскага раёна. У «Аламеды» маюцца арганізацыі-партнёры у гарадах Баэна і Новая Картэя (правінцыя Кардоба). Тут у сем'ях мясцовых жыхароў і адпачывалі дзеці.

Іспанцы шчыра апекавалі беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак. У першыя дні шмат званкоў было ў офіс: іспанцы хваляваліся, што дзеці не ядуць. Высветлілася, што ім столькі ежы накладалі, што дзеці не змаглі асіліць.

«Аламеда» мяркуе працягваць аздараўленне сірот у Іспаніі. Да аздараўленчай праграмы хочуць дадаць культурна–спартыўны накірунак.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ТУРНЭ

# Аркестр зноў чакаюць у Германіі

**МАЛАДЗЕЧНА. У верасні адбылася невялікая паездка на зямлю Бадэн-Вюртэнберг аркестра рускіх народных інструментаў Маладзечанскага музвучылішча. Кіруе аркестрам Тамара Бялькова. Як кажуць удзельнікі калектыву, нямецкая публіка вельмі шчыра і цёпла прымала сваіх гасцей, з задавальненнем апладзіравала славянскай музыцы. Асабліва гарачы водгук у слухачоў сустрэла апрацоўка нямецкай народнай песні, яны нават спявалі разам з аркестрам.**



Архіў музвучылішча.

**Выступленне аркестра рускіх народных інструментаў Маладзечанскага музвучылішча імя Агінскага пад кіраўніцтвам Тамары Бяльковай падчас апошняга турнэ у Германіі.**

22 гады таму таварыствам "Landemusik" быў заснаваны Міжнародны фестываль "Еўрапейскія музычныя сустрэчы". З таго часу ён штогод вандруе па розных гарадах Германіі. Туды запрашаюць музычныя калектывы самых розных краін Еўропы. І кожны можа пачуць нацыянальную музыку Францыі, Іспаніі, Грэцыі, Балгарыі, Беларусі, Расіі ў выкананні сімфанічных, народных і духавых аркестраў, харавых калектываў, камерных вакальных і інструментальных ансамбляў.

Для аркестра народных інструментаў стала ўжо добрай традыцыяй удзельнічаць у гэтым фестывалі.

Удзельнікі фестывалю давалі канцэрты ў Эслінгене, Хемсбахе і Остфілдэрне. У вольны час аркестр пазнаёміўся з гісторыяй гэтых гарадоў і традыцыямі іх жыхароў, атрымаў асалоду ад кантактаў з іншымі музычнымі калектывамі.

Праз тыдзень у Эслінгене адзначаюць 10-гадовы юбілей рускага хору, з якім даўно сябруе і супрацоўнічае народны аркестр. Такім чынам, маладзечанскіх музыкантаў чакае яшчэ адна цікавая канцэртная паездка.

Кіраўнік народнага аркестра Тамара Бялькова апантаная творчасцю, неўтаймаваная, энергічная, не спыняецца на дасягнутым. Не адзін яшчэ горад Еўропы пачуе цудоўнае гучанне рускіх народных інструментаў у выкананні маладзечанскага калектыву.

**Людміла АПЯЛІНСКАЯ, навучэнка музычнага вучылішча імя Агінскага.**

**Канцэртнае жыццё аркестра рускіх народных інструментаў Маладзечанскага музычнага вучылішча імя Агінскага пад кіраўніцтвам Тамары Бяльковай заўсёды было інтэнсіўным. Аркестр чатыры разы быў лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу харавых і аркестравых калектываў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў культуры і мастацтва, а ў 2001 годзе атрымаў Гран-пры. У красавіку 1995 года аркестру прысвоена ганаровае званне «народны». У 1998 годзе на фестывалі «Студэнцкая вясна» ў Віцебску ён таксама атрымаў Гран-пры. Канцэрты гэтага калектыву нязменна збіраюць поўную залу прыхільнікаў. Акрамя творчых паездак па гарадах Беларусі, аркестр народных інструментаў амаль кожны год выступае ў Германіі. Вось і зараз ён толькі-толькі вярнуўся з чарговага турнэ.**

■ ДА СУСВЕТНАГА ДНЯ АХОВЫ ЖЫВЁЛ



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Сабака Бусінка яшчэ маленькі. Разам з Анфісай Лескец яны б маглі хадзіць у адну групу .**

# Свята ў дзіцячым садзе

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую пятніцу ў дзіцячым садзе №25 адбылося музычнае свята, прысвечанае Сусветнаму дню аховы жывёл.**

Дзеці ляпілі і малявалі свойскіх жывёл, даведваліся аб іх жыцці, прыносілі фотаздымкі, дзе яны разам з любімымі жывёлямі.

Бацькі таксама прынялі ўдзел: яны наладзілі выстаўку плакатаў, прысвечаных Дню аховы жывёл. Гэта сям'я Лебядзінскіх, Ашла, Таразевічаў, Сінякоў, Макеяў.

Акрамя дзяцей, на свяце былі ўсе "жыхары" сада: папугай Чыка, чарапашкі, маленькі джунгарык. Колькі песень і вершаў, загадак і прыпевак ведаюць дзеці аб жывёлах!

Напрыканцы свята са сваім сабакам Бусінкам выступіла Лана Лаўрыновіч. Дзеці ўбачылі, як за клопат і дабрыню гаспадыні Бусінка выконвае каманды і абараняе яе.

Дзеці віталіся з сабакам за лапу, каталіся на ім, фатаграфаваліся. Проста не верыцца, што хто-небудзь з іх пасля гэтай сустрэчы зможа пакрыўдзіць "маленькіх сяброў".

**Алена КІЗІЦКАЯ, намесніца загадчыцы дзіцячага сада №25.**

■ ТЭАТР ЛЯЛЕК «БАТЛЕЙКА» ЗАПРАШАЕ

## Казкі з куфэрка

Жыла Марыся, у якой замест пяшчотных маці і таты былі злая мачыха – заможная пані Тадора і не вельмі добрая сястрыца – Юстыся.

Марыся працавала , а яны толькі і ведалі – есці і марыць пра багацце. Надакучыла ім Марыська – бедная сіраціна, вось і выраслі яны са свету звесці. Марысі няма чаго баяцца – пайшла на зачараваны млын, дзе жыў Чорт, які вельмі любіў танчыць. А Марыся і не танчыла ніколі, таму вырашыла... Але, каб даведацца, чым скончыліся танцы для Чорта, Марысі, Юстысі і мачыхі Тадоры, трэба зазірнуць у маленькі і стары бабульчын куфар з казкамі і лялькамі, які вельмі шануюць артысты тэатра лялек "Батлейка" і запрашаюць 13 кастрычніка гледачоў на спектакль. Пачатак – а 12 гадзіне.

## Незвычайныя спаборніцтвы

Звычайныя спаборніцтвы праходзяць на стадыёнах, у басейнах, на лёдзе. А тут нічога не зразумець! Якія спаборніцтвы!? Мы і кажам – незвычайныя, таму што спаборнічаць на лясных сцяжынках будуць Заяц з доўгімі лапамі і Вожык-ка-раткаНОЖАК.

Ну як могуць змагацца ў хуткасці Заяц і Вожык?! Могуць...

І пераможцам становіцца не Заяц-зазнайка, а Вожык – маленькі і знаходлівы. "Галоўнае – знайсці у сабе моц, каб папрасіць прабачэння адзін у аднаго, калі ты памыліўся", — так сцвярджае Сарока, якая ўсё бачыць і ўсё ведае.

Прыходзьце на спектакль 12 кастрычніка. Пачатак – а 12 гадзіне.

**Таццяна ЧАЕЎСКАЯ.**

■ ПРАФЕСІЯ

# Юбілей метэаралагічнай станцыі

**АШМЯНЫ. Мясцовая метэастанцыя адсвяткавала юбілей. Яна пабудавана ў верасні 1962 года. А назіранні, як сведчаць работнікі станцыі, пачаліся ў кастрычніку. Значыць, роўна 40 гадоў таму.**

За гэты час на станцыі кіраўнікі мяняліся радзей, чым у Савецкім Саюзе. Наталля Більман – трэці па ліку кіраўнік Ашмянскай метэастанцыі. Прыйшла сюды пасля заканчэння інстытута ў Санкт-Пецярбурзе. Не шкадуе, што размянялa вялізны горад на невялічкія Ашмяны. Ды і нарадзілася тут. Мясцовая.

Метэаролагаў у Беларусі не рыхтуюць. Бліжэйшыя інстытуты і тэхнікумы знаходзяцца ў Расіі і ва Украіне. Хаця ідуць размовы аб адкрыцці інстытута ў Мінску – Беларусі патрэбныя свае кадры.

Метэастанцыя абслугоўвае Ашмянскі, Смаргонскі і Астравецкі раёны. Мясцовыя жыхары думаюць, што работнікі станцыі складаюць прагнозы надвор'я. Гэта памылка – ашмянскія метэаролагі толькі назіраюць. А прагнозамі займаюцца сіноптыкі ў Мінску. У тым ліку па падставе ашмянскіх назіранняў. А мясцовыя гэтага не ведаюць і звоняць на метэастанцыю, каб даведацца аб надвор'і на заўтра. Даюць прагноз, які прысылаюць з Мінска. Былі і непаразуменні з цяперашнім кіраўніцтвам райвыканкома.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Начальнік Ашмянскай метэаралагічнай станцыі Наталля Більман.**

**Нарадзілася Наталля Більман ў вёсцы Мур-Ашмянка пад Ашмянамі. 8 класаў закончыла ў Іўеўскай сярэдняй школе. У 1987 годзе паступіла ў Ленінградскі тэхнікум лёгкай прамысловасці, а ў 1991 годзе пасля заканчэння тэхнікума вучылася ў Санкт-Пецярбургскім гідраметэаралагічным інстытуце. У 1997 годзе пераехала ў Іўеўскі раён, працавала настаўніцай чарчэння і біялогіі ў Лежнявіцкай сярэдняй школе. У кастрычніку 1999 года стала начальнікам Ашмянскай метэаралагічнай станцыі.**

Сёлетняй вясной, падчас пасяўной кампаніі, сельскагаспадарчыя службы райвыканкома, як звычайна, даведаліся пра прагноз надвор'я. На станцыі сказалі, што дажджоў не чакаецца. Аказалася – наадварот. Наталля Більман расказала, што яе да сябе выклікаў на прыём старшыня райвыканкома і "распякаў" за тое, што прагноз не спраўдзіўся. Маўляў, навошта Ашмянам такая метэастанцыя, калі яны не могуць даць дакладны прагноз. Але прагноз на тое і называецца прагнозам, што сто працэнтаў дакладнасці гарантаваць не можа.

Але гэта не выратавала работнікаў станцыі ад аказання дапамогі ў "бітве за ўраджай". Упершыню ў сваёй гісторыі работнікі станцыі ездзілі восенню ў калгас падымаць лён.

А так шасцёра работнікаў станцыі назіраюць за надвор'ем – тэмпературай паветра, глебы на розных глыбінях – аж да 3,2 метра, хуткасцю, напрамкам, ціскам, вільготнасцю паветра, воблачнасцю. Таксама сочаць за атмасфернымі з'явамі. Вынікі назіранняў дасылаюць у Мінск праз кожныя тры гадзіны. Пры пагрозе небяспекі папярэджваюць насельніцтва і спецыяльныя службы. Апошні раз надзвычайнае здарэнне было ў сёлетнім маі – за 7 гадзін выпала двухмесячная норма ападкаў. Заліло большасць падвалаў. Але насельніцтва папярэдзілі.

Калі ўзгадваюць выраз "і днём, і ноччу ён стаіць на варце", адразу ўзнікаюць аналогіі з ваенным, урачом, вартаўніком, нарэшце. Гэта адносіцца і да метэаролага, якія ноччу таксама не спяць, а ідуць на вуліцу здымаць паказанні. За 120-140 тысяч рублёў у месяц.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ВЫТВОРЧАСЦЬ

# «Сатэр» шые толькі для жанчын

**МАЛАДЗЕЧНА. Кіраўнік вытворчага ўнітарнага прадпрыемства (ВУП) "Сатэр" Аляксей Скарбееў у свой час закончыў Казанскі авіяцыйны інстытут. І лічыць, што лятальны апарат ў нечым падобны на швейную машынку.**

Хоць ніколі раней не працаваў у швейнай вытворчасці, ад запрашэння ўзначаліць "Сатэр" не адмовіўся. Так і пачаў ён з дня заснавання, з сакавіка 1998 года, кіраваць прадпрыемствам. Столькі ж часу "Сатэр" працуе з дзвюма галандскімі фірмамі.



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**За працай швачкі Алеся Войтава, Ірына Кахановіч, Таццяна Кавальчук і майстар Галіна Ждановіч (на заднім плане).**

## Мода па-галандску

Абедзве фірмы пастаўляюць тканіны і ўсё неабходнае для шыцця. Першая аддае перавагу штучнай тканіне і прытрымліваецца афіцыйнага накірунку ў модзе. Прыкладам, вельмі папулярная касцюмная тройка. З другой фірмы прывозяць разнастайныя тканіны. Але часцей працуюць з баваўняна-папяровай у маладзёжным стылі. На адзенне нашываецца шмат кішэняў, "маланкаў".

Наогул, галандцы амаль не прывозяць тканіну яркай расфарбоўкі. Часцей колеры мяккія. Адзенне з натуральнай скуры ці футра там не носяць.

Дарэчы, жанчына, якая "па-нашаму" носіць 50-ы памер, не такая і "вялікая", бо "па-іхняму" — гэта 44-ы.

## Рыхтуй сані летам...

Заказ іншаземцаў бывае розным – ад 300 да 3000 адзінак. Тэрмін выканання – не больш за 2 тыдні.

На ВУП "Сатэр" працуе 484 чалавекі. 8 брыгад шыюць у дзве змены. 2 – прасуюць. Ёсць адзін раскройны цэх. Як заўважылі на вытворчасці, мода, якая зараз у Галандыі, да нас прыходзіць звычайна праз год, а то і больш. Галандцы працуюць па прынцыпу: "Рыхтуй сані летам, а калёсы – зімой".

Два разы на год – у красавіку і кастрычніку – удзельнічаюць у міжнародным кірмашы, дзе і вызначаюць накірунку моды на наступны сезон. Вось і зараз шыюць маладзечанскія швачкі адзенне для галандскай вясны.

**Аб'ёмы вытворчасці на ВУП «Сатэр» у 1999-2002 гадах (тыс. штук)**




## Унутраны рынак

Дырэктар "Сатэра" Аляксей Скарбееў гаворыць, што на ўнутраны рынак таксама працаваць спрабавалі. Але з-за гэтага страцілі абаротныя сродкі. За наш тавар расплачваліся несвоечасова. Мы не маглі закупіць тканіну і нават выплаціць заработную плату. Цяпер выплата зарплаты наладжана. Некаторыя жанчыны па жаданні ў кошт зарплаты бяруць адзенне.

Па-сапраўднаму дапамагае "выйсці на сваіх" лабараторыя, якая ёсць на прадпрыемстве. У ёй займаюцца распрацоўкай адзення для нашых жанчын. Да канца года ў горадзе адчыніцца фірменны магазін "Сатэра". Ліцэнзія на розанічны гандаль ужо ёсць. У памяшканні магазіна робіцца рамонт.

Што тычыцца адзення для мужчын, пытанне застаецца адкрытым.

**Ірына РАБУШКА.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 3 кастрычніка | 10 кастрычніка |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1867,00 руб. | 1872,00 руб. |
| Еўра | 1834,70 руб. | 1832,22 руб. |
| Злоты | 450,88 руб. | 448,71 руб. |
| Літ | 531,47 руб. | 530,65 руб. |
| Расійскі рубель | 58,90 руб. | 59,09 руб. |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 1840-1880 руб. | 1840-1880 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 2.10 | 9.10 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11890 | 11890 |
| Сасіскі, 1 кг | 4900 | 4900 |
| Селядзец, 1 кг | 2200 | 2500 |
| Рыс, 1 кг | – | 700 |
| Грэчка, 1 кг | – | 550 |
| Цукар, 1 кг | 815 | 815 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | 1200 |
| Алей, 1 л | 1750 | 1900 |
| Маянэз, 200 г | 400 | 400 |
| Кава "Пеле", 100 г | – | 1900 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | – | 580 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | – | 650 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 600 | 520 |
| Капуста, 1 кг | 450 | 400 |
| Лімоны, 1 кг | 1700 | 1680 |
| Апельсіны, 1 кг | 1450 | 1450 |
| Агуркі, 1 кг | 1300 | 1500 |
| Памідоры, 1 кг | 700 | 680 |
| Кавуны, 1 кг | 250 | 200 |
| Морква, 1 кг | 400 | 420 |
| **Сялянскія прадукты:** | | |
| Малако, 1 л | 600 | 700 |
| Смятана, 1 л | 1800 | 1800 |
| Масла, 1 кг | 4100 | 3600 |
| Тварог, 1 кг | 1600 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1600 | 1500 |
| Бульба, 1 вядро | 2800 | 2800 |
| Яблыкі, 1 кг | 400 | 700 |
| Журавіны, 5-л. вядро | 6000 | 6000 |
| Вінаград, 5-л. вядро | | 2000 |

■ ЭКСПРЭС-АНАЛІЗ

# Ціхі страйк на базарах

**На мінулых выхадных у Вілейцы працавала толькі трэцяя частка рынку, а паўсюдна зачыненыя кіёскі на вакзале ў Маладзечне выглядалі ненатуральна для мясцовых жыхароў. А яшчэ больш дзівіліся з гэтага заезджыя.**

Самыя значныя патрабаванні прадпрымальнікаў: адмена рашэнняў аб увядзенні касавых апаратаў і адкрыцці рахункаў для прадпрымальнікаў, якія плацяць адзіны падатак штомесяц, з тым, каб яны штодзённа здавалі заробленыя грошы ў банк. Такія наваўвядзенні патрабуюць ад прадпрымальнікаў быць больш дынамічнымі: трэба выдзяляць час, каб падлічваць грошы, везці іх у банк – усё гэта вымагае большых сродкаў, увядзення новых штатных адзінак. Акрамя таго, сённяшнім прадпрымальнікам банкі адмовяць адкрыць рахунак, калі яны не прынясуць даведку аб тым, што зарэгістраваліся ў якасці плацельшчыкаў у фонд сацыяльнага страхавання. Вызваленымі ж ад унясення складак застаюцца прадпрымальнікі-студэнты, інваліды, жанчыны, якія не працуюць пасля цяжарнасці, і пенсіянеры.

Праз месяц плануецца правядзенне першага з'езда прадпрымальнікаў краіны, дзе яны збіраюцца зарганізавацца ў моцную структуру, выращыць свае унутраныя супярэчнасці і, магчыма, пераўтварыцца ў магутную і уплывовую арганізацыю рэспубліканскага ўзроўню.

Відавочна адно: страйк адмоўна адаб'ецца на працы шматлікіх установ.

Па-першае, вытворцы, якія толькі вырабляюць прадукцыю, не змогуць своечасова ачысціць свае склады. Гэта можа адбіцца на іх грашовым абароце.

Па-другое, казна дзяржавы ўжо пазбавілася мільёнаў долараў, а гэта складанасці з выплатай грошай ў сацыяльнай сферы.

Па-трэцяе, дзесяткі тысяч людзей і іх сем'і, якія працуюць у прадпрымальнікаў па найму, застаюцца без заробкаў, што можа прывесці да сацыяльнай напружанасці.

Па-чацвертае, жыхары Беларусі на няпэўны час пазбавіліся магчымасці набываць больш танныя тавары і прадукты харчавання.

**Аляксей ЧУБАТ, Вілейка.**

■ ДАСЛЕДАВАННІ

# Што трэба для эканамічнага развіцця рэгіёну?

Студэнт 5 курса Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта Зміцер Бабіцкі і аспірант кафедры Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта Уладзімір Валетка распрацавалі эканамічную канцэпцыю развіцця рэгіёнаў Беларусі. Рэгіён «Вілія» амаль супаў з тэрыторыяй распаўсюду «Рэгіянальнай газеты». Адрозненне адно – далучыўся яшчэ Пастаўскі раён. Якія ж мэты эканамічнага развіцця рэгіёну могуць быць?

## Прамысловасць

Падтрымліваць рэструктурызацыю прамысловасці і садзейнічаць развіццю прадпрымальніцтва.

У рэгіёне шмат беспрацоўных, больш чым у сярэднім па рэспубліцы. Нават без уліку схаванага, разлічанае па метадыцы Міжнароднай Арганізацыі Працы, беспрацоўе ў 1999 годзе ў асобных раёнах перавышала 9%. Праблема занятасці вымушае людзей шукаць магчымасці палепшыць свой матэрыяльны стан. Гэта і пацвярджае больш высокая занятасць у сферы малога прадпрымальніцтва. Па бізнес–актыўнасці вылучаецца Смаргонскі раён, дзе было самае высокае ў краіне беспрацоўе.

## Сельская гаспадарка

Садзейнічаць рэструктурызацыі сельскай гаспадаркі.

Дадатковы стымул для інтэнсіўнай вытворчасці сельгаспрадукцыі – блізкасць сталічнага рынку. Таму на поўдні больш хутка развіваюцца фермерскія гаспадаркі (паказчык складае ад 20 да 42 на раён). Калі ў сярэднім па краіне колькасць фермераў устойліва скарачаецца, то у «Віліі» яна нават павялічваецца (за кошт Вілейскага і Мядзельскага раёнаў).

## "Крыцкі калідор"

Больш поўна выкарыстоўваць «Крыцкі калідор №9», які праходзіць праз тэрыторыю раёна.

«Крыцкі калідор №9» з'яўляецца галоўнай Балтыйска-Чарнаморскай транспартнай артэрыяй і злучае Турцыю, Балгарыю, Румынію, Малдову і Украіну з краінамі Балтыйскага рэгіёну. На тэрыторыі Беларусі гэты калідор праходзіць праз Гомель і Мінск, і, перасякаючы «Вілію», выходзіць на Вільню, адкуль падвойваецца ў двух асноўных напрамках – на Калінінград і Клайпеду. Валожын і Ашмяны знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці ад транспартнай артэрыі.

Яе знаходжанне на тэрыторыі рэгіёну – патэнцыйная крыніца даходу для жыхароў. Мэтаю з'яўляецца развіццё інфраструктуры сервісу, прадпрыемствы якога былі б зарыентаваны на задавальненне патрэбаў аўтаперавозчыкаў (АЗС, крамы, гатэлі, СТА). Валожын і Ашмяны – найбольш верагодныя цэнтры канцэнтрацыі такіх прадпрыемстваў.

## Турызм

Пераўтварэнне паўночнай часткі рэгіёну «Вілія» ў турыстычную зону.

На поўначы «Віліі» знаходзіцца ўнікальны для Беларусі прыродны аб'ект – возера Нарач. Асноўнай мэтавай групай для курорта з'яўляюцца жыхары Мінска. У асноўным, яны зацікаўленыя ў параўнальна нядоўгім, высакаякасным, сучасным адпачынку. Таму стратэгічным для рэгіёну з'яўляецца развіццё высокатэхналагічных турыстычных цэнтраў, дамоў адпачынку. Узімку базы адпачынку могуць выконваць ролю цэнтраў для правядзення выязных семінараў, канферэнцый.

## ВНУ

Адкрыццё вышэйшай навучальнай установы у Маладзечне.

На тэрыторыі «Віліі» няма ніводнай самастойнай вышэйшай навучальнай установы, і моладзь мусіць ехаць па навуку у бліжэйшыя цэнтры – Мінск, Гродна, Віцебск.

Адзінае выйсце – адкрыццё прыватнай навучальнай установы. На Беларусі да гэтага часу няма ніводнай навучальнай установы са значнай вагой замежных інвестыцый. Маладзечна мае ўсе перадумовы, каб стаць першым горадам, у якім адчыніцца падобны універсітэт ці каледж.

**Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Даведка

Тэрыторыя рэгіёну складае 14200 км (6,8% ад усёй краіны).

Колькасць насельніцтва 464,3 тысячы чалавек (4,6%).

Колькасць жыхароў на км кв. — 26 ( на 3 пункты перавышае сярэднерэспубліканскі ўзровень).

Працэнт сельскага насельніцтва — 46 (на 16 пунктаў перавышае сярэдні паказчык па краіне).

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Двайное забойства

**МАЛАДЗЕЧНА. 6 кастрычніка ў адной з кватэр па вуліцы Будаўнікоў знайшлі мёртвымі двух гаспадароў.**

Прычынай смерці 84-гадовага мужа і 82-гадовай жонкі сталі чэрапна-мазгавыя траўмы. Узбуджаная крымінальная справа. Магчымай мэтай забойства можа быць асабістая непрыязнь некага са знаёмых.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ДЫНАСТЫІ

# Адчыняйце хутчэй – паштальён ля дзвярэй

**МАЛАДЗЕЧНА. З нашага лексікону паступова знікаюць словы і паняцці эпохі сацрэалізму, накшталт "ударнік працы", "наватар", "сямейная дынастыя", на змену ім прыходзяць новыя. Але ніякая мода, ніякая пошасць не ў стане выкарчаваць з жыцця людзей працавітых, улюбёных у сваю справу. Такіх, як Раіса Юркевіч і яе дочкі – Алена, Таццяна, Іна. Усе – работнікі паштовай сувязі.**



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Прадстаўнікі паштовай сямейнай дынастыі Юркевічаў Раіса Казіміраўна (у цэнтры) з дочкамі Таццянай (злева) і Аленай.**

### Раіса Юркевіч

Асабіста я перакананы: дзе б ні працавала Раіса Казіміраўна, работу сваю выконвала б з задавальненнем. А ўсё таму, што, як сама прызнаецца, любіць людзей, імкнецца ім служыць і прыносіць радасць. Яны ж адказваюць узаемнасцю.

— У мяне падпіска на перыядычныя выданні добрая, па 2-3 планы даю. Мяне, заўважыла, чакаюць у кожным доме, дзеляцца сваім патаемным. Гэта радуе, дапамагае пераадольваць стому.

Участак у Раісы Казіміраўны – самы вялікі сярод замацаваных за іншымі паштальёнамі гарадскога аддзялення сувязі №4. Яна падлічыла, што за дзень даводзіцца пераадольваць у сярэднім каля 35 кіламетраў. Гэта ж якую адлегласць прайшла з паштовай сумкай праз плячо за 17 гадоў працы паштальёнам!

Раней было больш складана працаваць фізічна: куды "таўсцейшай" была падпіска, па 10-15 перыядычных выданняў на адзін адрас прыходзіла, людзі часцей пісьмы слалі, паштоўкі. Менш чым 15 кілаграмаў сумка не важыла. Цяпер жа фінансавыя праблемы ціснуць: ужо колькі часу мы не носім гараджанам пенсіі, з гэтага лета амаль удвая знізіны тарыфы на іх дастаўку і вяскоўцам. Даводзіцца толькі дзякаваць кіраўніцтву раённага вузла паштовай сувязі, якое арганізоўвае работу калектыву, знаходзіць і прапаноўвае новыя віды паслуг. Адсюль і нашая зарплата, нашае, калі хочаце, месца пад сонцам.

Што і казаць, "прыкіпела" Раіса Юркевіч да работы паштальёна. А яе прыклад пераняні дочкі.

### Алена Фамічова

Побач з матуляй штодня напаўняе карэспандэнцыяй сумку паштальёна і дачка яе, Алена. Па асноўнай прафесіі яна майстар-фатограф. Але так скалыся абставіны, што колькі месяцаў таму ўлілася маладая жанчына ў кагорту сувязістаў, стала працаваць паштальёнам. Пакуль не расчаравалася.

— Спачатку, пакуль уцягнулася, нялёгка было. Мама дапамагала, сёстры падказвалі – вопыту ў іх болей. Цяпер адчуваю сябе ўпэўнена і мяняць работу не збіраюся. Хаця мой участак па памерах і колькасці кліентаў ідзе адразу ж за маміным. Што задавальняе? Найперш адносіны людзей, асабліва пажылых, адчуванне неабходнасці работы паштальёна.

### Таццяна Юркевіч

Яна таксама працуе ў чацвертым аддзяленні сувязі. Але ўжо аператарам і адначасова намеснікам начальніка аддзялення. Працуе толькі паўтара года, марыць набыць спецыяльную адукацыю, паступіць у каледж сувязі. Тым больш, што прыклад, як кажуць, побач – сястра Іна. Дакладней, Іна Міхайлаўна, намеснік начальніка раённага вузла паштовай сувязі.

### Іна Кулік

Іна і зусім разумніца: з залатым медалём закончыла школу, з чырвоным дыпломам – тэхнікум сувязі і інстытут. Збіралася вучыцца на юрыста, але зноў жа маці пераканала ісці па яе слядах. Дачка не толькі вучаніцай і студэнткай здольнай аказалася, але і спецыялістам удалым. За 5 гадоў паднялася па прыступках службовай лесвіцы да пасады намесніка начальніка РВПС. Цяпер у дэкрэтным адпачынку, гадуе разам з мужам, дарэчы, таксама сувязістам, але вузла электрасувязі, дачку. Трэба думаць, прадаўжальніцу дынастыі. Няхай так і будзе!

**Алесь ЗВОНКІ.**

**Будзь у нашай кампаніі – падпішыся!**




**222310, г. Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а, тэл. (01773)53841, 69667, факс 69667**

**«Рэгіянальная газета» – апошнія падзеі ў наваколлі, карысная рэклама і аб'явы, праграма TV.**

**Тыраж – 9150 экз. Дзень выхаду – пятніца.**
**Фармат – 16 старонак фармату А3.**
**Індэкс індывід. падпіскі 63212, кошт на месяц – 1704 р.**
**Індэкс ведамаснай падпіскі 63369, кошт на месяц – 5595 р.**

■ З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

# ОНТ сказала няпраўду

**30 верасня на частотах ОНТ прайшла інфармацыя аб будаўніцтве капліцы ў Маладзечне. Перадача мела рэзананс, але, як аказалася, сюжэт быў пабудаваны на фактах, якіх на самой справе не было. Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" атрымала афіцыйны ліст з Маладзечанскага гарвыканкома. Мы цытуем гэты дакумент.**

30 верасня 2002 года на канале ОНТ у "Нашых навінах" быў паказаны сюжэт тэлежурналіста Андрэя Сысоева аб узвядзенні капліцы ў Маладзечне за кошт добраахвотных сродкаў жыхароў (як сцвярджалася ў перадачы).

У сюжэце было сказана, што раней выдзеленыя грошы страцілі на правядзенне рэспубліканскага фестывалю, што зусім не адпавядае сапраўднасці і шкодзіць дзелавой рэпутацыі і аўтарытэту гарадской улады. Падобныя факты таксама шкодзяць прэстыжу службы навінаў і вымушаюць змяніць меркаванне аб высокім прафесіяналізме работнікаў.

Капліца на гарадскіх могілках узводзіцца па ініцыятыве Маладзечанскага гарвыканкома. Дагавор на яе будаўніцтва быў заключаны 20 лістапада 1992 года з фірмай "Мерра". Работы вяліся са снежня 1992 года па верасень 1993, а затым з-за адсутнасці грошай часова спыніліся. 29 мая 2002 года ў гарвыканкоме было прынятае рашэнне аб узнаўленні работ па будаўніцтву капліцы на гарадскіх могілках у Лазаўцы. Дагавор на выкананне работ па заканчэнні будаўніцтва заключаны УП "Камунальнік" з ААТ "Будаўнік-197". Прыкладны кошт работ склаў папярэдне каля 100 млн. рублёў.

Рашэнне гарвыканкома шырока падтрымала грамадскасць, у першую чаргу гарадскі савет ветэранаў, гараджане, людзі розных веравызнання. Усяго сабрана добраахвотных сродкаў 10,112 тыс. рублёў (а не 20 млн. руб., як прагучала ў рэпартажы), якія поўнасцю перададзены на будаўніцтва капліцы. Выканана ж работ на суму 80,4 млн. руб. (на 01.10.2002 г.). Цяпер работы на гэтым аб'екце працягваюцца. Збор сродкаў на фестываль з насельніцтва наогул ніколі не праводзіўся.

**Мікалай ЧУРСІН,**
**старшыня гарвыканкома.**
**Наталля БЯЛКОВА,**
**старшыня гарадскога Савета дэпутатаў.**

■ КОНКУРСЫ

# Спаборнічалі юныя агняборцы

**МЯДЗЕЛ. У нацыянальным дзіцячым аздараўленчым лагеры "Зубраня" прайшоў 5 рэспубліканскі злёт юных выратавальнікаў-пажарных.**

Удзельнічала 7 каманд (найлепшыя з кожнай вобласці і Мінска). Было звыш за 15 конкурсаў. У выніку перамагла каманда з Віцебшчыны. За першае месца атрымала яна камп'ютэр. Наогул, падарунак меў кожны ўдзельнік злёту.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 95 ГОД ТАМУ

# Пажар у Лядвенічах

Хаценчыцы, Віл. Губ. 17 сенц. у вёсцы Ледвенічах быў пажар. Згарэло 7 гаспадарОў – пагарэлі хаты, гумна и хлевы. Усё, што было собрано за лета, пагарэла, и бедные людзи асталися напроціў зимы як ёсць без ничога, и ў их хоць бы палец парэзаў, то нима чым завярцець.

**Сымон Рэпка**
**Першая Беларуская Газэта з Рысункамі «Наша нива». №31 ад 12 акцябра 1907 года**

■ ТУРЫЗМ

# Маладзечанская восень

**У XI раз адбыліся асабіста-камандныя спаборніцтвы па турысцкім веларалі "Маладзечанская восень". Нават неба паспрыяла ўдзельнікам. Было пахмурна, але без дажджу.**



Фота Сяргея БЯЛКОВА.

**Пераможца турысцкага веларалі «Маладзечанская восень» у камандным заліку – зборная Маладзечанскага раёна.**

На старт выйшлі 92 удзельнікі з 12 каманд. Першы этап у 25 км лідэры праехалі з завіднай хуткасцю — крыху больш за гадзіну. Але галоўны этап у 50 км наперадзе.

Першае месца ў камандным заліку заняла каманда Маладзечанскага раёна ў складзе **Святланы Лебедзевай, Паўла Ялагіна, Сяргея Траскі** і іх трэнера **Міхаіла Салдзянава.** На другім месцы каманда турклуба "Рэха" БДУ ў складзе сямейнага дуэта Валянціны і Аляксандра Навумавых, Міхаіла Ярохіна і Уладзіміра Галенчыка. На трэцім месцы каманда турклуба ВА "Гарызонт" (Мінск) у складзе Вольгі Радзько, Уладзіміра Журовіча, Сяргея Шкная і Аляксея Есіловіча. У асабістым заліку першай сярод жанчын была **Ірына Шаварнёва** (СШ №7, г.Маладзечна), другой – **Наіна Лычаўка** з Вілейшчыны і трэцяй – Галіна Вашкевіч з Лагойшчыны. Сярод мужчын першае месца заняў Аляксандр Навумаў ("Рэха"), другое – Міхаіл Ярохін і трэцяе – Уладзімір Журовіч (турклуб "Гарызонт").

Атрымаў прыз і 65-гадовы Алег Бакавы з Мінска як самы старэйшы ўдзельнік. Дарэчы, у спаборніцтвах прыняў удзел і праехаў усе 75 кіламетраў прэзідэнт беларускай федэрацыі спартыўнага турызму Уладзімір Кандрацьеў, якому споўнілася 64 гады.

Усе пераможцы і прызёры як у камандным заліку, так і ў асабістым атрымалі прызы. Спонсарамі спаборніцтваў выступілі дзве рэдакцыі газет "Рэгіянальная газета" (рэдактар **Аляксандр Манцэвіч**) і "Турызм і адпачынак" (Сяргей Плышкевіч). Вялікі ім дзякуй ад усіх спартсменаў. А ўсе ўдзельнікі атрымалі каляровыя дыпломы з асабістым ні к а м.

**Сяргей БЯЛКОЎ.**

■ ПРАСТЫТУЦЫЯ

# Інтэрпол дапаможа

**Праблема «прастытуцыі на вываз» стала не толькі праблемай Мінска і абласных цэнтраў, але таксама і невялікіх гарадоў і нават мястэчак.**

**МАЛАДЗЕЧНА. 7 кастрычніка ў гарвыканкоме прадстаўнікамі гарадской улады, праваахоўных органаў і СМІ абмяркоўвалася гарадская праграма комплексных мераў па супрацьдзеянню гандлю людзьмі і прастытуцыі, якая мусіць быць прынятая.**

За 2002 год на тэрыторыі Мінскай вобласці было узбуджана 2 крымінальныя справы па арт. 187 Крымінальнага Кодэкса Беларусі (вярбоўка людзей за мяжу шляхам падману з мэтай сексуальнай або іншай эксплуатацыі) і 2 за сутэнёрства.

Наш рэгіён – не выключэнне. Нашыя маладыя землячкі нярэдка робяць свой "бізнес", выязджаючы ў Расію або на Захад. Часам свядома, часам, становячыся даверлівымі ахвярамі несумленных дзялкоў. Іншая справа, што выпадкі паступлення заяў ад падманутых ахвяр у праваахоўныя органы – выключэнне.

Маладзечанская гарадская праграма яшчэ распрацоўваецца, але можна меркаваць, што яна будзе прадугледжваць стварэнне рабочых груп з ліку работнікаў праваахоўных органаў, урачоў, іншых спецыялістаў. Пад кантроль трапяць турыстычныя і іншыя фірмы, якія займаюцца арганізацыяй выезду маладзечанцаў на адпачынак і работу за мяжу. Цяпер абмяркоўваюцца таксама інфармацыйныя і асветніцкія акцыі, стварэнне базы дадзеных аб патэнцыяльных фірмах–вярбоўшчыках, аналіз інфармацыі аператыўна–вышуковага характару, па выніках судовых разглядаў. У тым ліку інфармацыі, якая трапляе па лініі Інтэрполу.

**Мікалай ГАЙДУК.**

